# Перад варшаўскім канцэртам

Ужо больш месяца хорам, які існуе пры Галоўным праўленні Беларускага грамадска - культурнага таварыства, кіруе новы дырыжор Міхась Ануфрыеў.

У сувязі з тым, мы звярнуліся да новага кіраўніка хора з просьбай расказаць нам аб сваіх планах на будучыню і, зразумела, пазнаёміць з ім нашых чытачоў.

Міхась Ануфрыеў нарадзіўся ў Баранавічах. З малых год яго захапляла музыка і, яшчэ будучы ў гімназіі, удзельнічае ў мандалінным і духавым аркестры. Пасля заканчэння гімназіі прадаўжае музычную адукацыю, беручы прыватныя ўрокі па ігры на скрыпцы. Затым, як скрыпач, паступае ў вандроўны украінскі тэатр. Аднак малады Міхась увесь час марыць аб павышэнні сваіх ведаў у галіне музыкі. З гэтай мэтай ён накіроўваецца ў Варшаву, дзе пачаткова іграе ў рэстаранным аркестры. Пасля паступае ў музычную школу. Апрача гэтага бярэ прыватныя ўрокі па музыцы ў вядомага ў той час праф. Германа. У час акупацыі Міхась Ануфрыеў трапляе ў Нямеччыну, куды быў вывезены на прымусовыя работы.

У 1946 годзе ён вяртаецца ў горад Вроцлаў. Тут ён паступае ва ўніверсітэт. Адначасова ён канчае і вышэйшую музычную школу.

Пасля заканчэння універсітэта працуе пачаткова як арганізатар мастацкай самадзейнасці, а затым дырыжорам у Тэатры юнага гледача ў Вроцлаве і адначасова педагогам.

Зараз Міхась Ануфрыеў пераехаў у Беласток і кіруе хорам пры ГП БГКТ. Трэба сказаць, што за месячны перыяд работы новы дырыжор дабіўся ўжо пэўных поспехаў. Перш за ўсё ён спалучыў аркестр народных інструментаў з хорам. Узяўшы кіраўніцтва хора Міхась Ануфрыеў паставіў мэту ўзняць хор сапраўды на высокі ўзровень. Гэта патрабуе, безумоўна, шмат працы. Ужо цяпер раз на дзве нядзелі з членамі хора працуе варшаўскі прафесар над пастаноўкай голаса. Гэта дазволіць паставіць на адпаведным узроўні голас і дыкцыю ўдзельнікаў самадзейнасці.

У новага кіраўніка хора даволі шырокія планы і на будучыню.

— У першую чаргу я хачу арганізаваць эстрадную групу, — гаворыць Ануфрыеў. — Гэта пакуль што яшчэ толькі ў плане, але мяркую, што здзейсніць гэта магчыма.

Немалыя клопаты праяўляе новы кіраўнік і аб адпаведным рэпертуары. На будучыя гады Міхась Ануфрыеў запланаваў збор народных песень Беласточчыны і пасля адпаведнай апрацоўкі ўключыць іх у рэпертуар хора. Гэта безумоўна патрабуе шмат часу і працы, але вынікі напэўна будуць добрыя.

Зараз самадзейны мастацкі калектыў пры Галоўным праўленні Беларускага грамадска - культурнага таварыства жыве ...шаўскім канцэртам. У Варшаве 7, 8 і 9 мая бягучага года, адбудзецца канцэрт мастацкіх калектываў нацыянальных меншасцей, пражываючых у Польшчы, на якім выступіць і наш мастацкі калектыў. Увесь калектыў, як і яго кіраўнік, пакладаюць цяпер шмат намаганняў на тое, каб паказаць сябе ў Варшаве з як найлепшага боку.

Калі я запытаў аб марах новага кіраўніка хора, Міхась Ануфрыеў усміхнуўся.



На здымку Міхась Ануфрыеў за працай.

— Я хацеў бы, — працягвае гутарку грам. Ануфрыеў, — зрабіць са сваім калектывам турнэ па Польшчы, а затым выехаць таксама і ў суседнія краіны. Зразумела, як і кожны дырыжор, я вельмі хацеў бы мець прафесіянальны беларускі ансамбль, які ў кожную хвіліну быў бы гатовы да канцэрта.

З свайго боку хочацца пажадаць новаму дырыжору хора здзейснення яго мар.

(пч)

АНТОН БЯЛЕВІЧ

## Ліст ЛЕНІНУ

Я помню, як ліст напісалі
Вам, Ленін, мае землякі.
У вёску сваю запрашалі,
Дзе пахнуць смалой сасннякі.

Дзе Нёман лагодны і светлы,
Ды ў пене рачной берагі.
Пісалі Вам: — Родны і ветлы,
Ўладзімір Ільіч дарагі, —
Прыедзьце да нас, калі ласка,
Сардэчна спаткаем усе.
Тут кожнае дрэўца і краска
Здароўечка Вам прынясе.

Сказаў рыбалоў: — Я гатовы
Насіць акунькоў Ільічу.
А цётка: — Яму я з дубровы
Прынесці маліны хачу.
І выйшла другая кабета.
— Пішыце, што я гавару:
Ліповага нашага цвету
Ў гаршчочку яму завару.

А пасечнік: — Слухайце,
людзі, —
Пчаліны сяголета год.
На мёдзе на чыстым
пабудзе. —
Здароўе дасць, роднаму, мёд.
Шавец кажа: — Леніну боты
Пашыю са скуры такой.
Што пойдзе ў асеннія
слоты, —
Нага будзе ў боце сухой.

А ўслед за шаўцом —
маладзіца:
— Пішыце, што я вам скажу:
Яму ж я звяжу рукавіцы,
З найлепшае воўны звяжу...

І кляліся, кляліся словы
У сардэчным лісце да яго.
І кожны прайсці быў гатовы,
Праз буры, віхуры, агонь,
Ступаючы ў новую долю,
Якую ён даў на вякі,
Ніхто не забудзе ніколі,
Суседзі мае, землякі,
Як роднаму ў клубе пісалі,
Сядзелі — пляча да пляча.
Пісалі, лістом запрашалі
У вёску сваю Ільіча.

ПЕРАМАГЛІ «ПРАЦАВІТЫЯ»

У папярэднім артыкуле з гэтага цыкла я пісаў аб тым, як Браніцкая з дапамогай караля і Стажэнскага, рукамі і за грошы бельскіх гарадчан і сялян будавала сабе Бельск. Сабе, бо ўкладанні ўносіла не для таго, каб карысталіся імі жыхары Бельска, а для таго, каб прыдаць значнасці Бельску, заахвоціць купцоў да пасялення ў ім, і такім чынам павялічыць свае даходы.

У сувязі з гэтымі капіталаўкладаннямі павялічыліся падаткі і адработкі, якія і з'явіліся апошняй кропляй да выбуху ўзброенага паўстання сялян у Бельскім павеце. Каралеўскія войскі задушылі паўстанне. Тады сяляне падалі на Браніцкую заяву ў суд.

Ход судовай справы вядомы нам з двух крыніц: з запісак Міхала Стажэнскага, які выступаў у час справы ад імя Браніцкай, і з судовых актаў.

# ПАД УЛАДАЙ БРАНІЦКІХ 3)

З запісак Стажэнскага вынікае, што сяляне дамагаліся ганаравання нейкай малаважнай прывілегіі, звязанай з каралеўскімі паляваннямі ў бельскіх лясах. Так, як бельскія лясы былі ўжо даўно высечанымі (Стажэнскі піша, што вырубалі сяляне, але мы ведаем, што Ян Клеменс Браніцкі такім чынам павялічваў свае даходы: вырабляў смалу, паташ і сплаўляў дрэва водамі Нарвы і Віслы ў Гданск), прывілегія не мела ніякага сэнсу і патрабаванне сялян аб ганараванні яе было звычайнай фармальнасцю.

«Вось якія ж неразумныя гэтыя сяляне», здаецца, гаворыць Стажэнскі.

А што вынікае з судовых дакументаў? Перш за ўсё тое, што ў «прыкладным» маёнтку Браніцкага сяляне ўсё яшчэ адраблялі паншчыну. У той час, калі ў іншых мясцовасцях даўно ўжо перайшлі на арэндную плату. Па-другое, сяляне бунтаваліся супраць прац і падаткаў, перавышаючых нормы, акрэсленыя прывілегіямі, і, па-трэцяе, супраць заворкі іх земляў.

Вялікімі, відаць, былі гэтыя крыўды, калі пачаткова абвінаваўчы акт быў пададзены ў суд ад імя вёсак-двароў Ляхі, Трывежа і Махнатае ў бельскім лясніцтве, а пазней ад імя ўсіх вёсак бельскага лясніцтва.

У часе працэсу ў судзе ад імя ўсіх зацікаўленых сялян выступалі Якім Парыханюк са Збуча, Янка Ярмудзяк са Старага Беразова і Дыянін Цімашчук з Хітрай. Ад імя Браніцкай, як сказана раней, выступаў у судзе Міхал Стажэнскі — стараста і войт Бранска, уласнік Страблі і іншых маёнткаў. Стажэнскі абвінавачваў сялян у непаслушэнстве, а таксама за бунт і невыконванне вызначаных работ.

Суд коратка разглядаў справу. У выніку чаго сяляне, хаця часткова, выйгралі. Праўда, адракліся права на прывілегію, з якой, па-праўдзе, і так не мелі б карысці, затое атрымалі замену паншчыны на арэндную плату. Была звернута ім значная частка зямлі, захопленай дварамі, у выніку чаго былі ліквідаваны два фальваркі: Жывец і Махнатае.

Стажэнскі, хоць справу абараняў, як сваю, і хоць праславіўся, як адзін з лютых эксплуататараў сялян, у душы, напэўна, разумеў крыўду подданых з бельскага лясніцтва.

Доказам гэтага можа быць факт, што вынік справы, аб якім сказана вышэй, ён лічыў перамогай для сябе і Браніцкай (значыцца, сяляне і так засталіся ашуканымі!). Ды толькі «пані Браніцкая недаацэньвала гэтага! Заплаціла мне няўдзячнасцю», — піша ў сваіх запісках Стажэнскі.

Так бывае на свеце, што два ваўкі пакусаюцца над здабычай. А, што ў Стажэнскага воўчых клыкоў было дастаткова, гэта і выявілася ў той час, калі абараняў свае ўласныя інтарэсы. Аб гэтым неўзабаве прачытаеце.

Р. Красько.

вузкі праход, я апынуўся на невялікім панадворку. Расчышчаная дарожка вяла ў глыб руінаў. Я пайшоў па ёй. Ззаду пачуўся скрып крокаў. І перш, чым я паспеў павярнуцца, мяне схапіў у абдымкі Крываручанка.

— Які ты, брат мядзведзь! — зажартаваў я.

— Ну - ну, ідзем хутчэй. — І я пацягнуў яго за сабою.

За пажарышчам мы ўбачылі жыллё Фамы Філімоныча. Гэта была зямлянка, заваленая снегам. Стары чакаў нас ля ўвахода.

— Прашу ў палац, — засмяяўся ён. У зямлянцы не было вокан, і ў першую хвіліну цяжка было што-небудзь убачыць, апрача маленькай нафтавай лямпы. Толькі калі Фама Філімоныч сказаў «знаёмцеся з маёю наследніцай», я, угледзеўшыся, прыкмеціў зграбную дзяўчыну. Яна падала мне гарачую руку і назвала сябе Тацянай.

Я пазнаёміў Крываручанку з Фамой Філімонычам і пачаў яго разглядаць.

— Як я хваляваўся за цябе! — сказаў я Сымону.

— А я не?

— Тут, брат, здарэнне было, і я чамусьці вырашыў, што менавіта ты трапіў у лапы Губарта.

— Я? Здзівіўся Крываручанка.

Трэба было расказаць усё аб Праскураве.

— Ну і куды ён дзеўся? — спытаў Сымон.

— Толькі што сустрэў яго.



— Цяпер? — яшчэ больш здзівіўся Крываручанка.

— Так, цяпер. Праскураў — гэта Наклейкін, гестапавец.

Таня збялела і охнула.

— Ты чаго, дачка? — Не прымай блізка да сэрца, — сказаў стары і растлумачыў нам: — Да Танюшы лезе гэты Наклейкін, як муха да мёду. Але мы яго прыбярэм.

На стале з'явіўся чайнік.

— Ты што, дзядок? — здзіўлена спытаў я. — Частаваць збіраешся?

— А як жа! Чым багаты...

— Дарма, — спыніў я яго. — У нас кожная хвіліна...

Стары глянуў на мяне з такою крыўдай, што я не закончыўшы фразы, першы сеў за стол.

— Што за надпіс у вас на плоце? — спытаў я Фаму Філімоныча.

Ён усміхнуўся:

— Гэта дачка змайстравала: дзе такая шыльда, туды немцы нагою не ступяць. Страшэнна яны баяцца сыпняка.

Я спытаў Крываручанку, як ён прабіраецца ў горад. Сымон расказаў, што яны з ляснікам, з якім яго звязалі партызаны, па чарзе, праз дзень, прыязджаюць сюды з дрэвам для лазні. На правоз у іх ёсць дакумент ад гарадской управы.



Я напісаў некалькі тэлеграм на Вялікую зямлю. Паведаміў аб Габішы і Губарце, аб доктары і Пахітуне. Дакладна напісаў аб дзейнасці даследчай станцыі, аб Куркіне, і аб здарэнні з Канстанцінам. А таксама паведаміў аб тым, што ў гэтым месяцы, відавочна, «камандзіроўка» мая закончыцца, і мяне выкінуць назад.

Затым мы з Крываручанкам дамовіліся аб далейшай сувязі. Цяпер падтрымліваць яе будзем праз Фаму Філімоныча.

На даследчай станцыі, у сваім пакоі я застаў Пахітуна. Пахітун слухаў радыёперадачу. Ён так сканцэнтраваўся, што нават не заўважыў, як я ўвайшоў. Перадача ішла на рускай мове. Я прыслухаўся. Дыктар паведамляў аб акружэнні арміі Паўлюса пад Сталінградам.

Радасць! Радасць гарачым патокам залівала мяне ўсяго.

Ледзь стрымліваючы свае пачуцці, я падышоў да Пахітуна і, як быццам нічога не чуў, спытаў, што перадаюць.

Пахітун падняўся, расставіў тонкія ногі, паглядзеў на мяне дзікімі вачыма.

— Што, вы не чулі? — спытаў ён.

— Нешта не зразумеў, — адказаў я.

— Э-эх! Пахітун рэзка махнуў рукою і вылаяў-

